# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №84

ЖНІВЕНЬ 2005

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## ПАД ЗНАКАМ ПСІХОЗУ

Усё памяшалася ў нашай дзяржаве:вайна з белару-скімі палякамі, маніяка-льная бітва за ўласны ўраджай, стваральная праца па збудаванні новай-старой хімеры-аграмястэчак. Неяк шпарка прамінуў нецікавы іхні славянскі базар.

Палякаў, здаецца, на час прыбілі.Ураджай, як перад канцом сьвету, сабралі.

Застаецца высьветліць: чаму, калі такі дабрэнны ўраджай, мы ямо такі кіслы,
такі падазронага колеру, такі нясмачны хлеб? Ну, проста канцлагернай выпечкі.

Ды таму, што з шалёнай прапаганды хлеба не пякуць, а пякуць з тых выкручаных з рук мільёнаў тонаў,якое, як попка, абяцае дыктатару начальства.

З аграмястэчкамі таксама няўпраўка.

**За леташні год у нашым Кабульськім сельсавеце памерлі 42 беларусы, а нарадзіліся -4 (чатыры!)Баланс-10 да 1.**

**Зараз у сельсавеце каля 1360 чалавек.**

Ці ж гэта не страшны вынік адзінаццацігадовага дэспатычнага кіравання беларускага дыктатара? Абдураныя, распрапа-гандаваныя як сямімесячныя неданоскі, нацкаваныя на ўсё і супраць усіх састарэлыя маразматычныя пеньсіянеры калхознага значэння будуць ізноў

галасаваць за Луку, бо ён даў ім стабільнасьць стабільна і статкам паміраць. Сыходзіць пакаленне, якое ніколі не бачыла добрага нармальнага жыцця, якое не бачыла справядлівасьці, якое ўдосталь не ела і ніколі не адпачывала. Якое ніколі не галасавала на чэсных выбарах, бо не мела іх. Якое не пакідае сыном і дочкам ніякай нерухомай маёмасьці. Сыходзіць пакаленне «будаўнікоў камунізму», будаўнікоў прывіднай віртуальнай піраміды камуністычнага Хеопса.

Але, сыходзячы, яно пакідае нам свайго міласьціўца-дыктатара.

Усе, каму не хочацца сыйсьці, як сыходзяць цяперашнія старыя, хай пастараюцца налета ў ліпені, каб сыйшоў дыктатар.

Іначай нішчымніца і галеча і поўнае выміранне нас не мінуць.

**ЛУКАШЭНКА НЕ МАЕ ПРАВА БАЛАТАВАЦЦА НА ПРЭЗІДЭНТА ТРЭЦІ РАЗ. ЯГОНЫ РЭФЕРЭНДУМ-ФАЛЬШ І ПАДМАН.**

**ЧАС КАНЧАЦЬ З МАХЛЯРСТВАМ.**

Дарэчы, у суседніх часьцях Расеі цыркулююць упартыя чуткі, што вось-вось Пуцін і Буш скінуць Луку. «І чым гэта ён ім не дагадзіў?», дзівіцца які-небудзь
бранскі мужык,якому
беларускі таталітарны рэжым родны і блізкі шчэ з савецкіх часоў. То мо гэта той дым, зь якога і можа паказацца полымя?

Пуцін і Буш скінуць Луку?

Пара! Даўно пара!!.

Толькі наўрад ці скінуць.

## НАЛЕТА- ВЫБАРЫ.

Як сказала арганізатар усіх лукашэнкавых элегантных перамог старшыніха цэнтральнай выбарчай камісіі Ярмошына
выбары прэзідэнта могуць адбыцца каля 16 ліпеня 2006 году.

Калі ўсё будзе як раней, то ні пра якія выбары нельга будзе казаць.Сам Лука пайсьці не захоча, шальмаваць будуць адчайна, ужо зараз паперасаджувалі па турмах, ссылках ды лагерох самых небясьпечных праціўнікаў Лукі. Так што працягвайце напутуваць, «Калі не Лука- то хто?»

Калі не Лука, то іньшы.

У Беларусі багата разумных людзей, толькі простым выбаршчыкам добра мазкі па тэлевізары засралі.

Што ж, хто не ўмее думаць сваёй галавою, хай
дазваляе весьці сябе тэлевізару. Толькі потым хай і жаліцца тэлеві зару.Нельга галасаваць як калхозьнік, а жыць як баўэр.

## СУСТРЭЧА З ДЭПУТАТКАЮ.

Седзячы на лавачцы ля пад"езду адна шацілкаўская кабета распавяла нам, як яна хадзіла да дэпутаткі (Калі хто забыў, то яе завуць Валя Кавалёва.)

«Даведалася я, што прыехала зь Менску Кавалёва. Ну, у мяне былі свае праблемы і вырашыла я схадзіць да яе на прыём. Прышла, села, чакаю. Тут выходзіць мужык і кажа: -Валянціна толькі што з дарогі, ёй трэба памыцца і адпачыць. Прымаць яна не будзе». Пасядзела я, падумала дый пайшла дахаты. Мыйся і падмывайся, дэпутатка.»

Тут слухачы з разуменнем заківалі галовамі, а адзін сказаў.

«Хіба ж яна да цябе прыехала? Яна прыехала да сваіх, хто яе паслаў туды.»

Сапраўды, райвыканкам прабіваў яе ў дэпутаты, яму яна і служыць.

Дык ці ж варта галасаваць за такія кадры?

---

## КАНФЛІКТ У «фІЛІЯЛЕ «ГОМЕЛЬЭНЕРГА» ДУБРАВА-АГРА»

Усё мусіць быць, як павялеў служка пеньсіянераў. Не пасьпелі нашы пеньсіянеры пачуць з тэлевізара каман-ду пра пачатак клопатаў пра жніво асабістых латачак збажыны, як яны-заўважым-вельмі лагічна занепако-іліся пра тое, каб зжаць сваё.

От і Кацярына Іванава (Куплёнчыха) ўстурбава-лася. Пайшла яна на філіяльські двор, каб тама-ка запатрабаваць канбай.

З канбаем выйшла затрымка і старая пеньсіянерка абрынула ўвесь свой багаценны запас беларускіх народных праклёнаў на філі яльскага начальніка Аляк-сея Нічыпаравага (Полаза).

(Ён, пэўне, занесены ў шэраг асабістых ворагаў Куплёнчыхі.)

Паколькі паводку адборных праклёнаў старой спыніць нельга було, начальнік зра біў памулку: ён выкішкаў старую рукамі.

От гэта і падкінула трэсак у загнет. Цяперака Куплёнчыха кажа ўсім, што яе зьбіў пераложны Полаз.

Можна й так меркаваць.

Але калі б была ў нас свая гаспадарка, сваё поле, свой канбай, свой банкаўскі рахунак, то на які ляд патрэбны быў бы Куплёнчысі іхні філіял і пранцаваты Полаз, а Полазу не давялося б слухаць брыдоцце калгаснай люмпенкі.Калгасны лад не толькі пазбавіў людзей годнасьці, ён іх бушкае ілбамі і робіць ворагамі.

І такі гідкі лад і надалей хоча трымаць у сяле Лука.

---

## ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗЬНІ

По два гады ссылкі, -па-народнаму хіміі- атрымалі беларускія дзеячы Мікола Статкевіч і Павел Севярынец.Усяго толькі за спробу пратэсту супраць падманных выбараў. Аказваецца, патрабаваць чэснасьці ў палітыцы і захаванання закону-злачынства.

Статкевіча адправілі ў Баранавічы, Севярынца- на самую поўнач, за некалькі вёрст ад расейскай мяжы. Пэўне, ўлада спадзяецца, што малады мужчына ўцячэ і гэта ёй наруку.

За царскімі часамі палітычным плацілі грошы і яны маглі не працаваць.

У бальшавікоў застацца жывым- ужо міласьць.

**СВАБОДУ СТАТКЕВІЧУ, СЕВЯРЫНЦУ, МАРЫНІЧУ!**

## БЫЛО Б ВЫГАДНА

беларусам далучыцца да Еўропы.Расея сама далучылася, а Беларусь-не.

Справа ў тым, што ў Стразбурзе / Францыя/ існуе Еўрапейскі Суд па правох чалавека і калі чалавек, правы якога парушаны і які прайшоў усе судовыя інстанцыі і не знайшоў праўды зьвернецца ў Страсбург, то часьцей за ўсё Страсбургскі Суд выносіць прысуд на карысьць скаржніка.(Па дробязях у такі суд не зьвяртаюцца.)Звычайна дзяржава выконвае рашэнне гэтага суда.

Але беларусы не могуць зьвяртацца ў гэты суд, бо мы не ўваходзім у Раду Еўропы. Дыктатару выгадна парушаць правы людзей і не даваць ім магчымасьці іх абараняць.

Таму нам, беларусам, выгадна было б далучыцца да Рады Еўропы. Галоўная перашкода- Лука.

Глядзі ў будучыню- на выбарах прыбяры плот паміж сабою і Страсбургам:гала-суй супраць Лукі.

---

## СТРАШЫЦЦА

Прыехалі ў Беларусь два грузінскія хлопцы з тамтэйшае апазіцыі да нашае.(Аднаго, дарэчы, звалі Лука.)Дык не пасьпелі яны і пару словаў сказаць адзін аднаму, як іх заарыштавалі і далі па 15 сутак за парушэнне візавага рэжыму. А паміж Грузіяй і Беларуссю візавага рэжыму німа.Ну і што! Дужа небясьпечныя валтэр"янцы аказаліся.

---

## 60 ГОД ТРАГЕДЫІ Ў ХІРАСІМЕ.

**60** год таму за некалькі секунд атамная бомба спаліла 140.000 чалавек. Страшная трагедыя.

Ад гораду засталося галашчокае месца.Гл. с 3

# ЯДЗЕРНЫЯ ВУЧЭННІ ПАД ТОЦКАМ.

У Савецкую Армію прызвалі мяне ў 1951 годзе. Служыў я ў Паўночна-Каўказкай вайсковай акрузе ў некалькіх вайсковых частках, нумар апошняй 71136. Гэта была сапёрная частка. 1 траўня 1954 года было ўрачыстае пастраення палка, пасьля чаго мы выехалі ў г. Маздок у сапёрна-інжынерныя лагеры. Недзе каля сярэдзіны траўня выклікалі нашага палкоўніка Абашына ў штаб Паўночна-Каўказкай вайсковай акругі ў Растоў.

Прыляцеўшы назад нам зачыталі загад Міністра абароны СССР пра выезд 45 асобнага інжынерна-сапёрнага палка на выкананне баявога задання Радзімы. Мы не зналі куды мы паедзем. Камандзір, напэўна, ведаў. За 45 хвілін сапёрны полк быў пагружаны ў эшалон з усёй тэхнікаю і маёмасьцю. Куды мы едзем нам было невядома. Ужо пад'язджаючы да гораду Куйбышаву мы дазналіся, што едзем у Тоцкія лагеры.

Прыехаўшы ў Тоцкія лагеры мы абсталявалі свой лагер на беразе ракі Самаркі і тут даведаліся, што будуць вучэнні. Якія, ніхто не ведаў, але пад'ём быў а шостай гадзіне,гучаў Гімн СССР і тут жа сьледам песьня ў выкананні Чырвонасьцяжнага Ансамбля Савецкай Арміі. Слоў я не запамятаў, а вось прыпеў добра памятаю.

-Бомба атомная есть<br>
Есть и водородная.<br>
Значит правильно идёт<br>
Дело всенародное!

Займаліся мы вось чым. Недалёка ад ст. Тоцкая быў разгорнуты пункт па перапрацоўцы драўніны, што паступала на гэты раз'езд. Наша частка ды іншыя рабілі доўгатэрміновыя агнявыя збудаванні у мяркуемым раёне вучэнняў. Недзе каля паловы ліпеня нашу першую роту накіравалі на выкананне, як нам абвясьцілі, надзвычай адказнага задання- абсталявання каманднага пункта вучэнняў. Былі выкапаны шэсьць катлаванаў, у якіх былі зроблены трыбуны і пад'земнае бамбасховішча з ФВУ, фільтра-вентыляцыйнымі ўстаноўкамі. Як толькі закончылася будаўніцтва гэтых збудаванняў, пачаліся вучэнні.

Гэта было 14 верасьня 1954 года. Пад час працы нас некалькі разоў наведвалі высокія чыны. Нашаму камандзіру роты двойчы даводзілася дакладваць Міністру абароны маршалу Жукаву пра ход выканання работ.

І вось надышло 14 верасьня. Наша першая рота пад камандаю капітана Шчэрбалева абслугоўвала вучэнні. Зампалітам у нас быў капітан Коган. У нас у роце было два капітаны. Быў да нас прыкамандзіраваны і ўрач, маёр, але прозьвішча ўжо не памятаю. Мы павінны былі выставіць шчыты са схемамі ходу вучэнняў, а непасрэдна перад вучэннямі шчыты трэба было апусьціць і замацаваць. І вось вучэнні. Прыемны жаночы голас абвяшчае, што самалёт-носьбіт вылецеў з раёну гораду Сталінграду і набліжаецца да раёну вучэнняў. Самалёт суправаджаюць два МіГі з мэтаю фатаграфавання вынікаў скідання бомбы. І вось паведамляюць: Самалёт набліжаецца да раёну вучэнняў, камандзіру экіпажа дадзены дазвол скінуць бомбу.

Што гэта за бомба мы ўжо ведалі: па-першае, песьня пра атамную бомбу. Па-другое, нас інструктавалі наконт метадаў абароны ад такой бомбы.

Усім афіцэрам, што знаходзіліся на трыбуне выдалі адмысловыя сродкі аховы ад выпрамянення, чорныя акуляры. Усім салдатам, сяржантам і малодшым афіцэрам у супрацьгазы былі выдадзены ахоўныя шкельцы. Знаходзіліся мы метрах у 15-20 ад трыбунаў у акопе.

На трыбунах былі міністры абароны, ды, пэўна і іньшыя высокапасадныя асобы з усіх краін сацыялізму.

Нарэшце па радыё абвяшчаюць: бомба скінута. Да выбуху застаецца 45 секунд...30 секунд...15 секунд. Выбух! Зямля захадзіла. Успышка. Я адчуў, што пашыі як вугельчыкам правялі. Абвестка:-Ідзе выбуховая хваля. Мы прыцiснуліся да зямлі. Другая абвестка:-Ідзе другая выбуховая хваля. Мы ляжым, не падымаемся. Праз нейкі час абвяшчаюць:-У раёне гары Мядзьвежай БРР-баявых радыёактыўныў рэчываў не выяўлена. Гэта там, дзе мы былі. З афіцэраў, што стаялі на трыбуне, з каго сарвала шапку, з каго нешта іньшае. Быў там і Курчатаў, чалавек з барадою. Мы зь ім ніякіх дачыненняў не мелі, нічога яму ніхто не дакладваў. Мы думалі, што гэта проста чалавек, які мае нейкае дачыненне да начальства.

Пасьля выбуху мы, сапёры, суправаджалі войскі на полі вучэнняў у баявых умовах. Пад вечар вярнуліся ў разьмяшчэнне часьці. Праходзілі мы ў непасрэднай блізкасьці ад эпіцэнтру выбуху, рашчысьцілі дарогу войскам. А чысьціць было што. Рос там некалі лес-асіна, дубняк. Усяго гэтага потым не стала. А тэхніка праехаць не магла. Мы рашчысьцілі дарогі і вучэнне працягвалася. Да вечару вярнуліся ў разьмяшчэнне часткі, прывезьлі армейскую лазьню, памыліся і дні праз два паехалі ў разьмяшчэнне палка.

Потым езьдзілі непасрэдна ў эпіцэнтр выбуху, разьбіралі тыя доўгатэрміновыя збудаванні.

Эпіцэнтр-гэта круг, прыкладна метраў 400 дыяметрам засыпаны вапнаю, каб лепей было відаць, куды кідаць бомбу. Нічога ў тым эпіцэнтры не было, бо бомба выбухнула ў паветры, над зямлёю. Вогненны шар вісеў у паветры некалькі хвілін, а потым паволі адышоў у бок горада Сарочынска. Што тамака тварылася я не ведаю, бо былі мы ў палявых умовах. Ад свайго камандзіра роты мы дазналіся, што пасьля вучэнняў іхні разбор праводзіў міністр сярэдняга машынабудавання Малышаў і патлумачыў, што гэта была бомба сярэдняй магутнасьці. Ну, мы вярнуліся ў полк на рацэ Самарцы, займаліся разборам збудаванняў-што можна было разабраць- і адвозілі іх у г. Бузулук. Недалёка ад г. Бузулука, кіламетрах за сем быў ці то калгас, ці то саўгас “Рассьвет”. Там, сіламі двух сапёрных палкоў -нашага 45 Паўночна-Каўказкай вайсковай акругі і аднаго Адэскай вайсковай акругі- было збудавана 128 дамоў з усімі надворнымі пабудовамі. Ці праводзіўся дазіметрычны кантроль гэтай драўніны? Наўрад ці. Абвясьцілі ж, што ў раёне гары Мядзьвежай БРР не выяўлена.

Прайшло шмат гадоў. Ехалі мы па загаду Міністра абароны СССР на выкананне баявога задання Радзімы. Гэта значыць, наш удзел і наша праца пад Тоцкам прыраўноўвалася да вайсковых дзеянняў з усімі магчымімы наступствамі, зьвязанымі з гэтым. Па палажэнню я павінен карыстацца нейкімі ільготамі, як удзельнік баявых дзеянняў, але нічога ад дзяржавы не маю. Ад нас тады ўзялі падпіску аб неразгалошанні таямніцы. Я звяртаўся ў ваенкамат у Гомелі. І пачалася бюракратычная валтузьня. Начальнік уліку сяржанцкага і радавога саставу сказаў, што мой зварот для яго першы зварот такога кшталту, інфармацыі ён ніякай не мае і запытае Генеральны Штаб пра магчымасьць такой інфармацыі для мяне.Прайшло даволі часу, месяцаў мо восем, і з Генштабу прышоў адказ. Запытайце, маўляў, вайсковыя часьці, дзе служыў я, захоўваючы сакрэтнасьць. Хоць увесь сьвет даўно пра гэта ведаў. І вось праз працяглы час прыходзіць такі мудры адказ. Паколькі я праходзіў службу ў Паўночна-Каўказкай вайсковай акрузе, то запыталі штаб той акругі. Адтуль прышоў адказ, што ўсе дакументы на ваеннаслужачых таго часу здадзены ў архіў Савецкай Арміі, а нумары актаў такія і такія.

Пасьля гэтага было запытанне ў Падольск, у Цэнтральны архіў Арміі.

/*канец на с. 4*/

Адтуль прышоў яшчэ мудрэйшы адказ, што ўжо не па загаду Міністра абарона, а па загаду камандуючага, асобны 45 сапёрна-інжынерны полк выбыў на выкананне баявога задання невядома куды, але па пратаколах партсходаў полк знаходзіўся ў Тоцкіх лагерах. Сьпіс асабовага саставу ў архіве адсутнічае. . Схавалі канцы ў ваду.Праўда, куды б я ні зьвяртаўся, усюды мне казалі, што, сапраўды, полк там быў, а салдата, які ў ім служыў, у ім не было. Нумар быў, а людзей не было. Па загаду камандуючага акругай, значыць. Падманным чынам зьнізілі ранг вучэнняў. Вось і ўсё. Такі фінал.

Бусел Пятро.

( Аўтару ўспамінаў пашанцавала: ён быў ля назіральнага пункта вельмі важных асобаў. Вось што пішацца пра гэтыя вучэнні у кніжцы «Золото Партии» «План гэты (атамных вучэнняў- *заўв. наша*) сасьпеў пры жыцці таварыша Сталіна і быў прадстаўлены вялікаму правадыру- маршалам Жукавым.(...) Вялікі правадыр план ухваліў, але ажыццявіць не пасьпеў. (...) План быў просты, як усё геніяльнае. Заключаўся ён у тым, каб сабраць на Тоцкім палігоне войскі колькасьцю каля 40.000 чалавек, разьмясьціць там розныя ўзоры баявой тэхнікі, збудаваць розныя пабудовы, нагнаць нават свойскую жывёлу і скінуць на іх атамную бомбу эквівалентам 100 кілатон, то бок у два разы (*наша заўв.* у пяць разоў!) большай магутнасьці за тую, што ў час вайны зьнішчыла Хірасіму. (...) Акрамя таго, у раёне палігону было 15 вёсак, што рабіла эксперымент яшчэ больш цікавым і павучальным.

Войскі (...) пасадзілі ў адных гімнасьцёрках і пілотках у акопах няпоўнага профілю, з загадам неадкладна пасьля выбуху наступаць у бок эпіцэнтру. Жыхароў вёсак наагул ні пра што не папярэджвалі.(...) Болей за тое, нават стыхійная эвакуацыя была сарвана ўладамі, бо адсутнасьць насельніцтва ў суседніх вёсках прывяло б да страты чысьціні эксперыменту.

14 верасьня 1954 года атамная бомба магутнасьцю 100 кілатон выбухнула над Тоцкім палігонам. Некалькі тысяч чалавек былі забітыя на месцы. У шпіталі Самары, Свярдлоўска і Арэнбургу патокам пайшлі апечаныя, асьлеплыя, аглушаныя. Тры суседнія вёскі згарэлі дашчэнту. На астатнія выпаў радыё актыўны попел, а ядзерны сьмерч прайшоў па акрузе радыусам да 50 кіламетраў. З параненых, апечаных, асьлеплых і аглушаных узялі падпіску пра неразгалошанне і яны паміралі з «усьведамленнем аказанага ім даверу»

Цяпер зразумела, чаму спадар Пятро не можа знайсьці доказу свайго ўдзелу ў Тоцкіх вучэннях: камуністы, як маглі, схавалі ад народу праўду пра сваё нечуванае злачынства. Людзей зьнішчылі не толькі ядравым полымем, але і ў дакумантах.

Застаецца дадаць, што з забойцы і марадзёра Жукава расейская прапаганда дбайна робіць народнага героя, а ў Беларусі звышзабойцу Жукаву хочуць ставіць помнік.

## ПРА ГОНАР І ГОДНАСЬЦЬ.

Беларускі дыктатар стаў ве-льмі небясьпечны.Варта толькі нешта намякнуць на яго,нават не памінаючы імя, як праку-роры і сьледчыя бегаюць, як усраўшыся, «абраза гонару і годнасьці», крычаць. Сама ме-ней гады два вязьніцы «вінаватаму» не мінуць.

Але ці ж сам Лука паважае каго-небудзь?

Не раз даводзілася чуць ад простага люду абурэнне хамскім панібрацтвам Лукі, тым, што ён груба «тыкае» людзям, старэйшым за яго.

От надоечы ён пагардліва вы-казаўся пра Прэзідэнта Поль-шчы «розныя квасьнеўскія». Ды той Аляксандр Квасьнеўскі нагою дзьверы да Буша адчы-няе, а наш Лука поўзае на паклон да Пуціна адганяць мух ад катлет.

Дык дзе той гонар і годнасьць?!

Насамрэч, кажын, хто лезе ў начальнікі, павінен ведаць, што чым ён большы бугор, тым болей да яго будуць пры-глядацца, тым меней ён мае права на прыватнае жыццё.

Найбольшая абарона гонару і годнасьці заўсёды ў простых грамадзян. А начальнікам трэба цярпець.Любіш езь-дзіць-любі й саматужкі цягаць

## ГРАМАТНЫХ ПАБОЛЕЛА.

Тры дуброўскія маладзічкі атрымалі сёлета найвышэйшую адукацыю.

Гэта Кур"ян Тацяна і Каралькова Марына, што скончылі Мазырскі педуніверсітэт ды Бусел Алёна, што скончыла Лінгвістычны ўніверсітэт у Менску.

Віньшуем дзяўчат з атрыма-ннем адукацыі.

Трое дуброўцаў пачнуць навучанне ў ВНУ ў верасьні.

Гэта Бусел Сяргей, Друзік Тацяна ды Мітраховіч Юля.

## ХТО ЗАБЫТЫ, А ХТО І НЕ.

Парэштткі савецкіх і нямецкіх салдат знойдзены пад час капання катлавану пад газаправод ля в. Вішы.З савецкіх апазнаны толькі адзін салдат- з Браншчыны.

Астатнія-невядомыя.

З салдатамі Вермахту ўсё зэр гут.Кажын меў медальён з імем, вайсковаю часткаю і г.д.

Савецкіх перапахавалі ў в.Кабульшчына, нямецкіх немцы патарабанілі ў Нямеччыну.

## АД ІХ АДНА ШКОДА.

Шэсьць добрых кароў,належных «Філіялу РУП Гомельдрэўэнерга Дубрава-Віягра» зарэзала машына на шашы трэцяга жніўня.Пастухі за малым богам уратаваліся. Справа была раніцаю, стаяў туман, а маскаль з Расеі пёрся на здаровым фургоне, вылупіўшы вочы,пад 120км/г.

Саюзьнічак называецца!

## СЬПЕЙКАЛІ ХАТУ.

Пакуль Бусел Ганна займалася зьбіральніцтвам дзікарослых у лесе, недарослыя ў Дуброві 22 чысла сьпейкалі ёй хату ды хляўчукі

Эх, папруга трэба на распусьнікаў!

## ХВАРЭЮЦЬ

Ніна Аніскавец лечыцца ў Гомлі.

Жадаем ёй папраўкі і палёгкі і найхутнейшага вяртання ў сям"ю.

**Віншуем дуброўцаў дэсантнікаў з 70 годдзем іхніх войскаў. Будзьце здаровыя!**

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Пабраліся шлюбам Бусел Алёна Мікалаева і Патлаты Пятро Іванаў Шчасьця, кахання і дабрабыту маладым.

Віньшуем з 45годдзем Тукача Адама Мікалаева. Жадаем сьціпламу працаў-ніку здароўя і радасьці.

Суседзі і калегі.

Друкарня імя І. Масьціцкага
100 асобн. Як заўсёды.